


# ДОБРЫ ВЕЧАР

Добрый вечер

МІНСКАЯ ГАРАДСКАЯ ГАЗЕТА

1993 ЖНІВЕНЬ 18 СЕРАДА

№ 154 (589)

Цана 10 рублёў


## СТАЛІЧНАЯ ХРОНІКА

*ПА ПАВЕДАМЛЕННЯХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ «ДВ», АГЕНЦТВАЎ РІД, БЕЛАПАН, БЕЛІНФАРМ*

□ ПА ЧУТКАХ І АЎТАРЫТЭТНА

### СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ НЕ АРЫШТАВАНЫ

Паводле звестак БелаПАН, 15 жніўня каля 23 гадзін у прыёмную Вярхоўнага Савета Беларусі патэлефанаваў грамадзянін, які назваўся Алегам Шакалавым. Ён заявіў, нібы мае інфармацыю аб тым, што на 6 гадзін раніцы 16 жніўня рыхтуецца арышт Старшыні Вярхоўнага Савета рэспублікі Станіслава Шушкевіча і ўвядзенне надзвычайнага становішча. Яшчэ адна такая ж заява была зроблена іншым грамадзянінам падчас тэлефоннага званка ў міліцыю. Аднак на працягу дня 16 жніўня ніводная з гэтых прадказаных падзей не мела месца. Больш таго, Станіслаў Шушкевіч у гэты дзень перапыніў водпуск і паўтары гадзіны правёў ў сваім рабочым кабінеце. Як паведамілі карэспандэнту БелаПАН у прыёмнай Старшыні Вярхоўнага Савета, Станіслаў Шушкевіч перапыніў водпуск не менш як на два дні.

16 жніўня кампетэнтныя органы, у тым ліку КДБ, займаліся высвятленнем абставін, пры якіх былі зроблены вышэйназваныя тэлефонныя заявы.

**Алесь КНЯЗЮК, БелаПАН.**

### У НАС В КВАРТИРЕ ГАЗ — ЭТО РАЗ

**Елена ЛИТВИН.**

Негорячая вода — это два, а в-третьих... Количество проблем, которые волнуют сегодня горожан, не перечесть. Но особенно встревожили минчан слухи о прекращении поступления в республику газа, известия об остановке по этой же причине предприятий, о нехватке топлива.

Как нам сообщил вице-президент концерна «Белтопгаз» Александр Петрович Корец, поставка газа из России в Республику Беларусь действительно в последние дни была снижена, так как наш долг из-за отсутствия безналичных российских денег за поставленный газ достиг более 100 млрд. рублей.

Суточная потребность нашей республики по лимиту составляет 30 млн. куб. м газа, начиная с 14 августа это количество было снижено до 12 млн. куб. м. Правда, после того, как правительственная делегация отправилась в Москву, подача газа была увеличена еще на 5 млн. куб. м.

Тем не менее, населению волноваться причины нет. Жилой комплекс, коммунально-бытовые службы, хлебо- и молокозаводы, мясокомбинаты, больницы, школы, детские учреждения потребляют газа столько, сколько им необходимо.

Тяжело приходится промышленности и особенно предприятиям энергетики. При ежесуточной потребности в 15,6 млн. куб. м газа, они получают лишь 9.

Нужно сказать, что правительство принимает срочные меры для погашения задолженности, чтобы нормализовать режим газоснабжения.

Как стало известно, В.Ф.Кебич и В.С.Черномырдин уже договорились об устойчивых поставках российского природного газа в Беларусь.

### НА ЧЕМ БУДЕМ ЕЗДИТЬ?

— 30 процентов городского автотранспорта Минска может быть в любой момент поставлено на прикол, — сообщили корреспонденту РИДа в объединении «Минскпассажиравтотранс». Среди причин — дефицит и дороговизна топлива, отсутствие новых машин (за 1993 год не приобретено ни одного нового автобуса из-за отсутствия валюты) и очень плохое состояние старых.

Если подобное произойдет, помогут ли в решении проблемы передвижения по столице метрополитен, трамваи и троллейбусы?

**Анатолий РОМАНОВИЧ.**

### ВОДКА — ХОРОШО, САМОГОН ...

Как утверждают столичные любители спиртных напитков личного производства, одними из самых лучших «сортов» самогона являются «Стародорожский» и «Любаньский»(названия даны условно,по местам изготовления). Они, дескать, и «идут» хорошо, да и содержание спирта в них процентов под 80.

Бутылка подобного «бальзама» стоит сейчас 1500 — 2000 рублей. Что почти равно цене бутылки водки «с рук». Те, кто жаждет, считают за лучшее купить самогон хорошего качества у «надежного» человека, чем суррогат с сомнительной жидкостью, выдаваемой иными коммерсантами за водку.

**Анатолий РОМАНОВИЧ.**

□ МІНСК СЁННЯ



ПРАСПЕКТ МАШЭРАВА.

Фота Юрыя ЗАХАРАВА.

### МІНІСТРЫ ЗБІРАЮЦЦА «Ў НАРОД»

**Мартын ЯНУШКАЎ.**

Як стала вядома, па ініцыятыве Дзяржаўнага сакратарыята па справах тэрыторый створаны 7 груп з ліку кіраўнікоў Савета Міністраў, міністэрстваў і ўстаноў, якія штомесячна будуць праводзіць рабочыя сустрэчы з працоўнымі калектывамі, кіруючымі работнікамі савецкіх органаў і гаспадарчых арганізацый. Узначальваюць гэтыя групы намеснікі старшыні Савета Міністраў рэспублікі. Пакуль цяжка сказаць, у якой форме і дзе адбудуцца гэтыя сустрэчы, але, хутчэй за ўсё, гэта не будуць выступленні ў ЖЭСах або на мітынгах. Найбольш верагодна, што прадстаўнікі ўрада выступяць перад дэпутатамі, кіраўнікамі прадпрыемстваў і ўстаноў у раённых або гарадскім Саветах, можа, ва універсітэце або на буйных прадпрыемствах. Задумана ўсё гэта «з мэтаю абмена думкамі па надзённых праблемах эканамічнай палітыкі і асабліва па пераваѕе паглыблення эканамічнай інтэграцыі Рэспублікі Беларусь, Расійскай Федэрацыі і Украіны і па пытаннях дзейнасці выканкамаў мясцовых Саветаў і выпрацоўкі тактыкі дзейнасці ва ўмовах развіваючыхся рыначных адносін». Мяркуецца, што ў гэтым квартале асноўная гаворка павінна весціся па праблемах удасканалення бюджэтнай і падатковай палітыкі, раздзяржаўлення і прыватызацыі, забеспячэння паліўнаэнергетычнымі рэсурсамі. Сапраўды, тэма надзённая і вельмі вострая, тут ёсць аб чым пагаварыць і запытацца. Застаецца толькі сказаць, што першыя сустрэчы павінны прайсці ўжо ў гэтым месяцы. Рабочую групу Саўміна ўзначальвае намеснік старшыні ўрада Міхаіл Дзямчук.

□ ПА СЛЯДАХ ЗДАРЭННЯ

### А МОЖА МЕТЭАРЫТ альбо ЛЯЦЯЦЬ «ВУТКІ»

**Іван КАХНОВІЧ.**

Выбух на плошчы Незалежнасці, што адбыўся ў мінулы чацвер, па-ранейшаму не застаецца па-за ўвагай. Многія, пэўна, учора чулі ў «Радыёфакце», а потым прачыталі ў некаторых газетах пра тое, што прычынай таго, што здарылася, мог быць стрэл з рэактыўнага гранатамёта «Шмель» або «Муха». Больш таго, прыводзілася спасылка на сведкаў, якія чулі не адзін, а два выбухі.

Вядома ж, мы паспяшаліся звязацца са следчай групай Міністэрства ўнутраных спраў рэспублікі, якая займаецца гэтай справай. Якое ж было здзіўленне, калі, як паведаміў нам супрацоўнік МУС Анатоль Смаленцаў, усе гэтыя паведамленні ні больш, ні менш, як... звычайная «вутка». Па словах Анатоля Мікалаевіча, агляд месца здарэння не дае ніякіх падстаў да вышэйпрагучаўшага вываду. Яго здзівіла і спасылка на «спецыялістаў кампетэнтных органаў, бо следчая група ніякіх падобных заяў не рабіла. Можа, яшчэ хтосьці займаецца расследаваннем? Больш таго, аказваецца, па ацэнках зрабіць стрэл з мінамёту ад рэстарана «Папараць-кветка» з улікам яго месцазнаходжання і характару выбуху — малаверагодна. Дзіўнай выглядае і спасылка на сведкаў: як гэта ні прыкра, але, на жаль, ні адзін чалавек не пазваніў і не паведаміў у міліцыю, што ён валодае хаця б якою-небудзь інфармацыяй аб гэтай падзеі.

Як бы гэтага ні хацелася, але пакуль следчая група не можа адназначна адказаць наконт паходжання выбуховага рэчыва і матыву акцыі. Няма пакуль і вынікаў экспертызы. Хоць на метэарытны дождж, які, як многа гаварылі ў той час, «праліўся» над планетаю, спасылайся. Але гэта — жарт.

Мы ўсё ж спадзяёмся, што знойдуцца людзі, якія дапамогуць следчым, таму нагадаем нумары, па якіх можна патэлефанаваць: 297-876, 274-690, 297-898 або 02.

■ ТЕМА ДНЯ

## НЕФТЯНОЙ КРИЗИС

*«Если Россия не откроет кран с нефтью — это катастрофа», — не скрывают в Комитете по нефти и химии при Совете Министров.*

*В прошлом году было переработано 20 млн. тонн нефти, в этом году договорились на 16 млн. Но обещания остались на бумаге и ни одной тонны не получено из Башкирии, Казахстана и Татарстана.*

*Россия, выставив счет долга к оплате, предъявила ультиматум: пока не получим 2 миллиарда долларов, нефтересурсы в кредит не даем. Предупредительным выстрелом прозвучал отказ качать нефть четыре дня в июне.*

Белорусское правительство молчало, не высказываясь ни «за», ни «против» экономического союза. В июле перекрыли кран на две недели (!). С миллиона шестидесяти тысяч тонн нефти поставка упала до семисот тысяч или 60 процентов. На местном топливе мы долго не продержимся. «Беларусьнефть» добывает 100 тысяч тонн в месяц. Срочно требуется помощь в топливе и кредит в российских рублях.

В республике есть фирмы, которые стали миллиардерами, покупая нефть в России и перерабатывая на Мозырском и Новополоцком комбинатах. От 50 до 70 процентов топлива они вывозят из Беларуси, здесь торговать невыгодно: при мировой цене 120 тысяч рублей за тонну наша республика закупает по клирингу, т.е. по обмену с Россией, по 45 тысяч за тонну.Коммерческие структуры тоже могут продать не выше установленного потолка — это те же 45 тысяч с небольшим коэффициентом надбавки.

Положение складывается критическое. Если не пойдет нефть, автобусные маршруты будут максимально сокращены, никакого рекламного освещения на улицах, вся энергетика будет переведена на строгий режим экономии. Горячая вода будет подаваться раз в неделю. Уже сегодня Совет Министров нацеливает на 13-14 градусов тепла в квартирах на ближайшую зиму.

Привожу эти факты не для того, чтобы посеять панику. Нужно знать, через что мы должны пройти на пути к самостоятельности и независимости в экономике. Реальным примером может служить прошлый осенне-весенний сезон в Прибалтике, где газ периодически отключали, температура в квартирах держалась на отметке 6-8 градусов, горячая вода подавалась изредка.

Можно предположить, что правительство Беларуси не отпускает цены на топливо, боясь социального взрыва в республике.

Но выбор сделать придется: либо под руку с Россией и в путь, либо мы суверенный новый мир построим. Надо решить хотя бы для себя: жить нам при социализме (шведском, русском, белорусском) или принять рыночные отношения и впустить свободные цены.

**Наталья ГРИБ, РИД.**

■ ГЭТА АКТУАЛЬНА

## СУВЕРЭНІТЭТ ЗА РУБЕЛЬ?

**Міхаіл ГАВАРЭНЬ, «ДВ».**

**Чатыры дэпутаты Вярхоўнага Савета — Г.Казлоў, І.Трусаў, М.Скарынін, А.Лукашэнка — прыпынілі свой адпачынак, з'ездзілі прыватным чынам на дзень у Маскву і там вырашылі ўсе нашы балючыя пытанні. На прэс-канферэнцыі Г.Казлоў сказаў, што іх накіравала фракцыя «Беларусь». (Паўнамоцтваў ад Вярхоўнага Савета дэлегацыя не мела). Чацвёрка сустрэлася з Р.Хасбулатавым і В.Герашчанкам, удзельнічала ў пасяджэнні ВС Расіі. Г.Казлоў выступіў там з шасціхвілінная прамовай. Сустрэлі расіяне беларусаў, як родных. З цікавасцю выслухалі прамову аб стварэнні эканамічнага саюза Расіі і Беларусі. А.Лукашэнка ў расійскай тэлеперадачы «Парламенцкая гадзіна» нават прапанаваў канфедэрацыю (гэта яго прыватны пункт гледжання). Дэпутаты правялі ў Маскве дзве прэс-канферэнцыі.**

**Цікава, што праект дакумента «Аб паглыбленні эканамічнай інтэграцыі паміж Расіяй, Украінай, Беларуссю» з'явіўся толькі 10 жніўня, а ўжо 11 чацвёрка паехала ў Маскву дамаўляцца аб яго хутчэйшай ратыфікацыі. Дамоўленасць, па словах Г.Казлова, дасягнута: нават калі будуць знойдзены якія недарэчнасці, на дапрацоўку не адправяць (каб не даць магчымасці неназваным цёмным сілам спыніць важную справу).**

**Дзякуючы чароўным словам «мы з табою адной крыві — ты і я», а таксама адсутнасці прыцяснення рускіх на Беларусі і іншых акон у Еўропу ў Расіі атрымана абяцанне аб набыцці нафты і газу ў Расіі па льготных тарыфах (нягледзячы на 117-мільярдную запазычанасць). Паступіць і расійская наяўнасць. Тэхнічныя крэдыты з чацвёртага квартала будуць перакінуты на жнівень месяц і будуць выдзелены дадатковыя крэдыты. Спадар Герашчанка вельмі непакоіўся, чаму ўсе краіны СНД просяць наяўных, а Беларусь — не; чаму яна папрасіла такі малы тэхнічны крэдыт. Цяпер непакоіцца больш няма прычыны — Казлоў з таварышамі папрасілі. Вось толькі ўмовы прадстаўлення гэтага крэдыту, якія А.Лукашэнка лічыць вельмі выгаднымі, так і не былі абнародаваны, нягледзячы на настойлівую цікаўнасць журналістаў. Двухбаковае пагадненне з Расіяй — справа амаль вырашаная, заявіў І.Трусаў. Яно ўключае адзіныя грошы, тарыфы, падаткі, законы, узгодненую колькасць грошай на тэрыторыях дзяржаў і гэтак далей. Будзе і падтрымка прэм'ер-міністраў, і пастаянныя кантакты парламентарыяў.**

**Пытанняў было шмат. Незалежная тэлекампанія «Рыцар» на скаргу А.Лукашэнкі аб недахопе паліва для збожжаўборачных камбайнаў пацікавілася, чаму Беларусь не зробіць па прыкладу стран Балтыі, дзе паліўную праблему вырашылі камерцыйныя структуры. (У Латвіі нават увялі мытны падатак на ўвоз нафты, гэтулькі яе туды навезлі). А.Лукашэнка адказаў, што як старшыня дэпутацкай камісіі па карупцыі баіцца з'яўлення мільянераў сярод камерсантаў і чыноўнікаў, якія даюць дазвол на аперацыі з нафтай. Нават у калегах-дэпутатах ён не ўпэўнены. Што ж, няма нафты, няма мільянераў. Але ж і збожжа рызыкуе застацца на палях.**

**На пытанне РТР наконт дэнансацыі Белавежскіх пагадненняў Г.Казлоў растлумачыў: у ВС Расіі такі дакумент на руках у дэпутатаў, а асабіста ён плануе ўнесці такую прапанову на бліжэйшай пазачарговай сесіі, як і аб дэнансацыі пагаднення з Украінай, бо яны ў жыцці не працуюць. Да якога зыходнага становішча вяртацца, дэпутаты не адказалі.**

**Гарантыі жыццяздольнасці эканамічнага саюза Г.Казлоў бачыць у стварэнні міждзяржаўных кіруючых органаў і дакладных тэрмінах ратыфікацыі пагаднення (не больш месяца).**

**...Справы Беларусі пагоршыліся не за адзін дзень. Трывожныя прыкметы былі ўжо зімой, калі наш афіцыйны друк зласловіў над цяжкасцямі Літвы. Але ці значыць, што каб паправіць справы, трэба ахвяраваць суверэнітэтам?**



■ У ПАРТЫЯХ, ПЛЫНЯХ, РУХАХ

### ЗА ЧЫСЦІНЮ РАДОЎ!

**Алесь СЯРГЕЕЎ, «ДВ».**

Як паведаміла рэдакцыі народны дэпутат Мінгарсавета, вядомая актывістка БНФ Галіна Вашчанка, Маскоўская рада г.Мінска гэтага руху выключыла з шэрагаў Беларускага народнага фронту «Адраджэнне» кіраўніка рады (цяпер ужо былога) Сяргея Міхнова.

Прычынай такога рэзкага і прынцыповага рашэння, па словах спадарыні Г.Вашчанкі, з'явілася парушэнне С.Міхновым статута БНФ.

## КАЛЯНДАР

**Серада, 18 жніўня.**

**СОНЦА — 5.51/20.35.**
**Даўжыня дня — 14.43.**
**МЕСЯЦ — маладзік 17 жніўня,**
**усход 6.50/захад 20.17.**
**ІМЯНІНЫ**
**Сёння:**
**Праваслаўныя — Ноны, Яўсігнія.**
**Каталіцкія — Алены, Браніслава, Ілоны.**
**Заўтра:**
**Праваслаўныя — ПРААБРАЖЭННЕ ГАСПОДНЯЕ (Спас).**
**Каталіцкія — Баляслава, Яна.**



■ У ПРЭС-ЦЭНТРЫ МІНГАРСАВЕТА

### НАВУКА — ЯКАР ВЫРАТАВАННЯ ДЛЯ ГРАМАДСТВА

**Міхаіл ВАЛЬКОЎСКІ, «ДВ».**

*На чарговай прэс-канферэнцыі ў Мінгарсавеце з журналістамі сустрэліся старшыня пастаяннай камісіі па навуцы, навукова-тэхнічнаму прагрэсу і інфарматыцы В.Д.Андрыянава і член гэтай камісіі Г.М.Афанасьеў.*

Вера Дзмітрыеўна Андрыянава адзначыла, што такая камісія была створана пры Мінгарсавеце ўпершыню, бо раней навукова-тэхнічным прагрэсам кіравалі партыйныя органы. У склад камісіі ўваходзіць восем дэпутатаў, але найбольш актыўна працуюць у ёй Г.М.Афанасьеў, В.М.Шчаброў, С.Л.Мазурэнка.

Задачы вялікія і складаныя. У апошні час пачалі займацца канверсіяй. Шмат увагі ўдзелена інфармацыйнай прасторы горада (прынята праграма інфарматызацыі), стварэнню гарадскога кадастра. І тут вялікую ролю магло б выканаць упраўленне навукі. Пытанне аб ім прапанавана вынесці на чарговую сесію Савета.

Камісія працуе ў кантакце з упраўленнем навукі і тэхнікі Дзяржплана пры Савеце Міністраў, асаблівую ўвагу ўдзяляе праграмам для патрэб горада. Адна з іх — стварэнне тэхнапарка на базе НВА «Цэнтр» — ужо рэалізуецца.
У гэтым годзе сесія Мінгарсавета ўпершыню выдзеліла грошы з бюджэту для фінансавання навукова-тэхнічных распрацовак. Так, распрацаваныя ў БДУ новыя дахавыя матэрыялы хутка з'явяцца на мінскіх дахах.

Фінансаванне ажыццяўляецца праз Мінскі інавацыйны фонд, у які звяртаецца са сваімі праблемамі шмат навукоўцаў. У асноўным — за грашыма, плошчамі, дапамогай у пошуках партнёраў (асабліва канверсуемыя прадпрыемствы).

Каб больш эфектыўна выкарыстаць сродкі, плануецца правесці конкурс на лепшы навукова-тэхнічны праект для патрэб Мінска (ён павінен быць на стадыі доследна-канструктарскай распрацоўкі). Дапамагла ўкараненню новых распрацовак навукова-тэхнічная канферэнцыя «Навука — гораду», падрыхтаваная і праведзеная дэпутацкай камісіяй у 1991 годзе. Але правядзенне другой такой канферэнцыі без стварэння ўпраўлення навукі вельмі праблематычна.

У Мінску сканцэнтраваны вялікі навукова-тэхнічны патэнцыял у АН Беларусі, у НДІ, на кафедрах ВНУ. Навука перажывае цяжкі час. У дэпутацкай камісіі няма дакладных лічбаў эміграцыі навукоўцаў на Захад, але, па ацэнках В.Д.Андрыянавай, «уцечка мазгоў», іншыя цяжкасці прывялі да таго, што ў большасці НДІ, іншых навуковых установах горада працуе чвэрць ранейшай колькасці навукоўцаў. Патрэбна дзяржаўная падтрымка, бо без навукі і навукаёмістых тэхналогій і вырабаў краіна пазбаўлена будучага. Светлых жа галоў сярод навукоўцаў Мінска многа, новых, перспектыўных, але неўкаранёных тэхналогій і ўзораў тэхнікі імі створана шмат. Напрыклад, А.А.Вечар (БДУ) распрацаваў маламоцныя крыніцы энергіі, працуючыя за кошт утылізацыі і выкарыстання хімічнай і цеплавой энергіі, біягазу. А колькі перспектыўных распрацовак у ВПК! Але праблема канверсіі, на думку Г.М.Афанасьева, гэта ў значнай ступені праблема кіраўнікоў прадпрыемстваў, якія прывыклі да зусім іншых правілаў гульні. Таму так цяжка выкарыстаць вялікі навуковы патэнцыял «абаронкі». Увогуле, наша народная гаспадарка вельмі неўспрымальная да ўсіх новых, прагрэсіўных распрацовак.

Адсутнасць дзяржаўнага падыходу да навукова-тэхнічнага прагрэсу В.Д.Андрыянава праілюстравала на прыкладзе працэсу інфарматызацыі рэспублікі. Замест выкарыстання новай айчыннай тэхнікі, створанай НДІ ЭВМ (па надзейнасці, аб'ёму памяці, камплектацыі, нават дызайну — на ўзроўні сусветных патрабаванняў), рэспубліка запаўняецца персанальнымі камп'ютэрамі 286-й серыі, тэхнікай пазаўчарашняга дня, якая практычна ўжо не выпрацоўваецца на Захадзе. Да таго ж гэтыя камп'ютэры розных вытворцаў, часам «жоўтай» зборкі, несертыфікаваныя, з іх немагчыма стварыць камп'ютэрныя сеткі. Скупныя плаціць двойчы, бо хутка прыйдзецца пераходзіць на новую тэхніку.

■ СПОРТ-ПАНАРАМА «ДВ»

**Іван КАХНОВІЧ.**

### «СЯРЭБРАНЫ» ПАЧАТАК

Галоўная падзея гэтых дзён — чэмпіянат свету па лёгкай атлетыцы ў Штутгарце. Беларусы асаблівых лаўраў пакуль не зыскалі, аднак адзін медаль — сярэбраны — на іх рахунку ёсць. Гэта гродзенскі атлет Ігар Астапковіч заняў другое месца ў кіданні молата. І хаця ў сёлетнім сезоне ён меў лепшы вынік, чым Андрэй Абдувалиеў, аднак, як, дарэчы, і ў Барселоне, галоўны старт года выйграў таджыкскі спартсмен. У гэтым жа відзе чацвёртым быў яшчэ адзін беларус — Сяргей Алай. Мінчанін Яўген Місюля быў пятым у спартыўнай хадзьбе на 20 км. Тое, што адбывалася ў час гэтых спаборніцтваў, інакш, як цыркам, назваць цяжка. Як вядома, многае тут аддадзена на водкуп суддзям. Вось яны і «праявілі» сябе і «знялі» з дыстанцыі двух галоўных фаварытаў — расіяніна Міхаіла Шчэннікава і нашага Юрыя Кука. Яшчэ адзін беларус — Франц Касцюкевіч сам сышоў з трасы.

Сёння на чэмпіянаце медалі разыгрывацца не будуць, спартсмены адпачываюць. Заўтра — фіналы ў шаставікоў, бар'ерыстаў і бар'ерыстак на 400 м, акрамя таго жанчыны вызначаць чэмпіёнаў у кіданні дыска і бегу на 200 м.

### НАРЭШЦЕ Ў «ЯБЛЫЧКА»

Ужо пад заканчэнне першынства Еўропы па кулявой стральбе беларускія спартсмены заваявалі залаты медаль. Вызначыўся Анатоль Кліменка. У стральбе з малакаліберная вінтоўкі з трох палажэнняў ён паказаў лепшы вынік.

### АТРЫМАЛІ ПРЫЗНАННЕ

Беларуская асацыяцыя жаночага футбола, аб праблемах і бедах яе мы, дарэчы, не аднойчы пісалі, нарэшце атрымала статут юрыдычнай асобы. Днямі адбылася яе рэгістрацыя ў Міністэрстве юстыцыі. І яшчэ цікавая навіна. Дзве дзяўчыны з мінскага клуба «Электроніка» — Алена Бялькевіч і Вольга Слыш — паспяхова вытрымалі экзамен на завочным аддзяленні па спецыяльнасці «футбол» у Акадэміі фізічнага выхавання і спорту.

### РАЗБЯГАЮЦЦА...

Здаецца, нейкая навала найшла на хакейны клуб «Ціваалі». Не так даўно «збег» за акіян Сяргей Алімпіеў, які не зрабіў яшчэ нічога ў дарослым хакеі, але папаў у драфт НХЛ. Не ведаеш, ці смяяцца, ці плакаць, што малады і не бяздарны хакеіст «прадаўся» ледзь не за трамвайны білет — бо на меншыя грошы, кажуць, яшчэ ніхто не спакушаўся. А нядаўна яшчэ адна «пяцёрка» сапраўдных смаркачоў — Журык, Козель, Губар, Хайлак і Ложкін — падалася туды ж. Можна зразумець іх жаданне паспытаць сябе і пашукаць лепшай долі, але ж, можа, гэта трэба рабіць па-людску.

### ЕЎРАПЕЙСКІ ДЭБЮТ «НЁМАНА»

Сёння гродзенская каманда ў швейцарскім горадзе Лугана на стадыёне «Карнарэда» ў 20.00 па мясцоваму часу дэбютуе ў Кубку ўладальнікаў кубкаў еўрапейскіх краін. Але тэлетрансляцыі не будзе. «Нёману» патрэбны грошы, таму ўсе правы на гэтую справу прададзены на тры гады швейцарскай кампаніі «Тэлеспорт». Што ж, справа звычная. Дарэчы, гэтак жа паступіла і мінскае «Дынама» (і з Брэмена, хутчэй за ўсё, замест трансляцыі мы атрымаем «прывітанне»).

А ўчора закончыўся чарговы тур першынства Беларусі.

Здавалася б, нечаканасцей тут не павінна было быць. Лідэры, акрамя маладзечанцаў, гулялі дома і разлічвалі на перамогу. Але, як усе добра ведаюць, — мяч круглы. Нечаканасць на гэты раз здарылася ў Віцебску, дзе КІМ, які дагэтуль не ведаў паражэнняў, прымаў мінскае «Тарпеда». Аўтазаводцы нечакана для ўсіх «правалілі» старт першынства і мелі на сваім рахунку ўсяго адно ачко. Зразумела, што віцябчане разлічвалі на перамогу, аднак мінчане праявілі характар, змаглі вытрымаць націск гаспадароў і, больш таго, выйгралі — 1:0.

Мінскае «проста» «Дынама», хаця перажывае не лепшыя часы, пэўна, не разлічвала на такія клопаты ў гульні з «Гомсельмашам». Не, чэмпіёны панавалі на полі, мелі значную перавагу, і ўжо на 11-й хвіліне Алег Пуціла забіў гол. І потым нічога ў гульні не змянялася, але за пяць хвілін да перапынку гамяльчанін Канстанцін Прахарэнка зраўняў лік. А ў другой палове, калі мінчане парушылі правілы ў штрафной, Андрэй Юсіпец з пенальці вывеў «Гомсельмаш» наперад. Вось так — атакавалі мінчане, атакавалі, а два выпады гасцей — і два галы. У рэшце рэшт Хацкевіч і Вялічка нанеслі два дакладныя ўдары, і «Дынама» перамагло 3:2. Адзначым з'яўленне на полі Валерыя Вялічкі і Юрыя Шуканава.

Астатнія вынікі: «Дынама-93» — «Тарпеда» (Магілёў) — 1:0, «Шыннік» — «Маладзечна» — 1:2, «Будаўнік» — «Лакаматыў» — 0:0, «Ведрыч» — «Шахцёр» — 1:1, «Днепр» — «Фандок» — 1:0.

АКТУАЛЬНОЕ ИНТЕРВЬЮ

# ОСТАНОВИТЬ ЦЕНОВОЙ БЕСПРЕДЕЛ В СТРОИТЕЛЬСТВЕ: УТОПИЯ ИЛИ РЕАЛЬНОСТЬ?

Ирина ГЕРМАНОВИЧ, «ДВ».

**Прочитав заголовок, умудренные опытом читатели, единодушно скажут: «Утопия!». И, пожалуй, будут правы, потому что каждый день мы наблюдаем, насколько ухудшается положение везде и во всем. А уж в строительстве... Специалисты говорят: нужен рынок жилья. Но ведь рынок жилья — это не только приватизация наших квартир. Это — рынок жилищных инвестиций, рынок строительных материалов, подрядных работ и жилья как товара. Еще недавно жилые дома строились и пока строятся за счет средств предприятий и организаций, ЖСК и индивидуально. Централизованные бюджетные ассигнования исчерпали себя. Резко уменьшились возможности предприятий. Жилищно-строительные кооперативы также чуть «дышат», так как стимулировались через бюджет. У нас остается единственная надежда улучшить свои жилищные условия — строить дома за свой счет. Но цены, увеличивающиеся каждый день, превращают нашу надежду в безысходность.**

**Почему ситуация столь катастрофическая? И главное, есть ли из нее выход? Об этом мы беседуем с начальником управления капитального строительства Мингорисполкома И.К.ТУРОВЫМ и главным специалистом Б.Л.ПУСТЕЛЬНИКОМ.**

**И.К.ТУРОВ:** Действительно, ситуация в строительстве сложилась чрезвычайно сложная. Если не сказать катастрофическая. Причин тому очень много. Главная из них, берущая свое начало десятки лет назад, — несовершенство государственного регулирования деятельности строительных организаций. Вплоть до 80-х годов оценивали по промежуточным результатам, а не по готовым законченным объектам. Такая система оценки практически не затрагивала качества строительства, не говоря уже о сроках и т.п. И только с середины 80-х начался переход на расчеты за готовую продукцию. Кстати, наша республика первой в бывшем СССР стала переходить к новой системе.

Сейчас в отрасли сохраняются монополизм, отсутствие конкуренции, безнадежно растут цены. Проведенные в последнее время реформы в строительном производстве ничего не изменили. Вместо государственной организации «Главминскстрой» был образован концерн «Минскстрой», в состав которого вошли те же самые строительные структуры. По-моему, от такой «реорганизации» никто ничего не получил. Монополист остался тот же — стройтрест, диктующий условия, главное из которых — цена. Совершенно очевидно, что только создание многочисленных небольших структур, основанных на различных формах собственности, позволит сдвинуть этот монолит. Малые предприятия такого рода появились, но пока они настолько маломощны, что ни о какой конкуренции говорить не приходится. Вот почему появившиеся новые инвесторы обращаются к тем же членам концерна. Отсюда — отвлечение мощностей с объектов УКСа, т.е. города, на «коммерческие» стройки. Концерн как диктовал, так и диктует строительную политику. Какая уж здесь демонополизация и конкуренция! И потом, как показала практика, образование даже большого количества самостоятельных строительных организаций еще не будет означать демонополизации отрасли. Монополизм в ней обусловлен не столько организационной, сколько технологической структурой строительного производства, уровнем индустриализации преимущественно на основе сборных железобетонных конструкций. Их изготавливают на глубоко специализированных крупнейших предприятиях. А управляет всем этим отраслевая система комплектования строек. Она-то и есть истинный монополист. Такая система работать напрямую с мелкими потребителями не может. Поэтому не случайно после ликвидации Главка тут же появился концерн, куда стройтресты делегировали в первую очередь право управления комплектацией. Монополисту выгодна очередь потребителей.

**КОРР.:** *Значит, централизованное распределение стройматериалов остается и сейчас. Возможно, когда речь идет об особо важных, крупных стройках, это оправдано. Но в целом, такой порядок распределения особо дефицитных материалов и приводит к взяточничеству, когда от подписи отдельного чиновника зависит, получу я металл или цемент по распределению или нет. А если и получу, то стоимость его...*

**И.К.ТУРОВ:** Ценообразование — отдельный серьезный разговор. Сегодня подрядные строительные организации не заинтересованы в снижении стоимости работ. Строители свободны в приобретении дорогостоящих материалов и конструкций, так как все это ложится на плечи заказчика. Все накрутки, все коэффициенты удорожания, которые применяются в строительном конвейере, обогащают подрядчика. Но неужели не понятно, что временное обогащение будет недолгим? Заламывая баснословные цены, строители рубят сук, на котором же и сидят. Нельзя забывать о том, что в условиях рынка труда появилась возможность пригласить строителей из других стран, не только близлежащих, но и дальних, у коих качество и производительность несравненно выше. Посмотрите, сегодня зарплата увеличилась в несколько раз, но надо бы знать, что она не заработана. Ведь объемы строительства сократились, производительность упала. Сегодня на стройке каждый второй строитель лишний.

**Б.Л.ПУСТЕЛЬНИК:** Остановится ли беспредел цен на стройматериалы, а, значит, и на жилье? Однозначно не ответишь. Это зависит от многих причин. Во-первых, нужно желание подрядчика искать и покупать дешевые материалы. Во-вторых, следовало бы перейти к контрактной системе, где цена определяется заранее с учетом прогнозирования повышения затрат. Такой порядок и заставит строителей искать, где и у кого можно купить дешевле. Есть еще один путь — повышение производительности труда. К сожалению, мы забыли это понятие, считая, что оно относится к периоду псевдосоциализма. А ведь этот показатель играет огромную роль в капиталистическом хозяйстве, позволяя получать большие прибыли.

Снизить стоимость жилья можно и с помощью самих жильцов, привлекая их, скажем, выполнять отделочные работы на свой вкус и по своим возможностям. Порядок этот был узаконен, нормативные документы не утратили силы. Нужна только инициатива как строителей, так и заказчика.

Особо хочется подчеркнуть и обратить внчмание на наши связи с ближним зарубежьем, в особенности с Россией. Без нее пока белорусские строители не обойдутся, ибо оттуда мы получаем широчайшую номенклатуру стройматериалов. Цены заламываются огромные. Поэтому одним из выходов было бы создание в Беларуси небольших предприятий стройиндустрии.

**КОРР.:** *Нельзя не сказать и еще об одной причине сложной ситуации в строительстве — омертвлении сотен миллионов рублей, которые никем не востребованы. Более того, они требуют дополнительных затрат на их содержание. Что же делать?*

**Б.Л.ПУСТЕЛЬНИК:** Продавать на торгах. В нынешних условиях исполком горсовета должен бы проявить большую заинтересованность в привлечении новых инвесторов в строительство. Недостаток средств можно компенсировать за счет финансов различных коммерческих предприятий. Для этого необходимо предоставить больше прав единому заказчику — УКСу Мингорисполкома. Мы полагаем, что именно УКС может и должен стать организацией, которая займется привлечением инвесторов. Ему предоставлено право согласовывать со всеми юридическими лицами, независимо от форм собственности, долевое участие в строительстве жилья и объектов соцкультбыта в интересах города. Уже заключено более десятка таких договоров.

**КОРР.:** *Если говорить о перспективах с жильем, то, насколько я понимаю, больше шансов все-таки остается у ЖСК. Стоимость кооперативных квартир значительно ниже, чем жилья, финансируемого за счет бюджета.*

**И.К.ТУРОВ:** Ежегодно в Минске ЖСК строят 200-220 тысяч квадратных метров общей площади. Этого, конечно, крайне недостаточно. Можно ли увеличить объемы кооперативного строительства? Можно. Но для этого нужны желание строителей и возможности строящихся. Особого желания у строителей нет, потому что отсутствует стимул — безвозмездное получение 10 процентов квартир в каждом доме. Не нравится им и обязательное предоставление доказательств фактических затрат. Действительно, стоимость кооперативных квартир ниже, чем квартир, финансируемых за счет бюджета. ЖСК освобождены от платы за возмещение ущерба в связи с изъятием земельных участков. Они не оплачивают стоимость квартир, строящихся для людей из сносимых домов.

Ограничены возможности и у членов кооператива. Как правило, вносится первоначальный взнос, а дальнейшие денежные поступления идут неравномерно, а то и вовсе иссякают. Строительство начато, а денег на его продолжение нет. Члены ЖСК внесли свой первоначальный взнос, исходя из сметной стоимости дома. Но фактические затраты уже в первые месяцы намного выше. ЖСК обращается в Сбербанк за ссудой, а там говорят: разницу платите за свой счет, ссуда на это не выделяется. Строительство «стоит». Такие ситуации возникают периодически. Добавьте сюда постоянное повышение цен на стройматериалы и конструкции, поставку оборудования только при условии предоплаты, штрафные санкции за нарушение сроков оплаты. Часто даже законченные жилые дома не заселяются из-за того, что ЖСК несвоевременно переводят деньги УКСу.

**КОРР.:** *Можно ли сегодня купить квартиру не у частного лица, а у государства? Или через коммерческую фирму?*

**И.К.ТУРОВ:** Такая возможность есть. Исполком горсовета принял решение «О строительстве жилья по договорным ценам», по которому УКСу предоставлено право до конца года продать 200 квартир. Купить их можно юридическим лицам, независимо от форм собственности, для своих работников, которые нуждаются в жилье. Оформляться это будет договором купли-продажи. Но недостатки есть и здесь. На наш взгляд, нецелесообразно, что квартиры строит УКС, распределяет их управление учета и распределения, а договор заключает райисполком. Мы полагаем, что вся эта работа должна быть сосредоточена в одной структуре. Не следует заставлять покупателя бегать по трем инстанциям и в каждой из них доказывать свои права. Надо расширить практику строительства и продажи квартир через УКС. Тем самым минчанам строить жилье не только посредством кооператива, но и самостоятельно. Это еще один путь к рынку жилья.

Надо сказать, что рынок жилья не освобождает государство от забот о тех, кто не может сам построить квартиру. Для них будет строиться жилье за счет государственных средств, льготных кредитов. Но конечно же, пока перспективы весьма нерадужные. Нет денег.

**Нет денег ни у рядовых граждан, ни у государства. Это не удивительно. Любое государство благополучно только тогда, когда благополучен каждый из граждан. Удивительно другое: почему государственные ответственные структуры не проверят работу строительного комплекса в сфере ценообразования? Насколько обоснованы цены? Почему строители заинтересованы покупать дорогостоящие материальные ресурсы через коммерческие структуры, а не непосредственно у производителя? К сожалению, движение к рыночным отношениям в строительстве не приводит пока к желаемым результатам...**



ПА СЛЯДАХ НАШЫХ ВЫСТУПЛЕННЯЎ

# КАМАРОЎКА ЗАПРАШАЕ, АЛЕ...

Міхаіл ВАЛЬКОЎСКІ, «ДВ».

**Даведзеныя дэмакратамі да галечы мінчане, між іншым, даволі актыўна наведваюць Камароўку (трэба думаць, не толькі з экскурсійнымі мэтамі). Таму і водгукаў на матэрыял «Камароўка запрашае пакупнікоў і прадаўцоў» («ДВ» № 142) было шмат.**

Гараджане часцей выкарыстоўваюць для сувязі з рэдакцыяй тэлефон, чым пошту. І зразумела чаму — аператыўнасць, бясплатнасць, адносная надзейнасць.

Дык вось, пенсіянерка Тацццяна Васільеўна ў тэлефоннай размове адразу звярнула ўвагу аўтара на фактычную недакладнасць. На адкрытым рынку з чысцінёй, па яе словах, амаль заўсёды справы не вельмі добрыя. Да таго ж пасля дажджоў там паміж радамі ўвесь час стаяць лужы (дрэнна працуе ліўневая каналізацыя). Яна раіць дырэкцыі рынку падумаць аб развядзенні ў іх вадаплаўнай птушкі...

Інжынер Андрэй Лабунок паведаміў, што за прылаўкамі гадамі ён бачыць адны і тыя ж твары гандляроў-перакупшчыкаў і таму чакаць канкурэнцыі і зніжэння цэн — марна. Што ж, ён, напэўна, мае падставы для такога вываду. Але адзначым і тое, што сялянам у наш час вельмі складана знайсці магчымасці і час, каб выбрацца гандляваць на рынак. (Адны цяжкасці з транспартам для дастаўкі прадукцыі адаб'юць усялякае жаданне гандляваць). Таму закупачна-пасрэдніцкую дзейнасць, калі на рынак трапляе больш тавару, можна, на мой погляд, толькі вітаць. Відаць, кожны робіць сваю справу: селянін вырошчвае сельгаспрадукцыю, гандляр — ёю гандлюе.

Аб гэтым жа, але ў іншым аспекце, паведаміў прадпрымальнік Валодзя (прозвішча ён не назваў). Так, па яго словах, Камароўку кантралюе групоўка пэўнай нацыянальнай прыналежнасці. І таму ніводзін з гандляроў з бліжняга замежжа не будзе зніжаць цану на тую ж садавіну нават пад пагрозай, што яна трапіць на сметнік, бо наступствы за такі ўчынак для яго будуць значна горшыя, чым проста ад псавання тавару. Што ж, пакінем гэта сцвярджэнне на сумленні Валодзі, але аднолькавая цана па ўсёй Камароўцы на экзатычную для нас сельгаспрадукцыю, магчыма, можа быць растлумачана і нечым іншым.

Увогуле, тэма рынку невычэрпная, мае шмат граней, бо жыццё Камароўкі куды складаней, чым здаецца на першы погляд. І той бруд, што на тратуары, можа і самы прыкметны, але не самы галоўны...

РЭСПУБЛІКА

## ЛЕТАМ РЫХТУЮЦЬ НЕ ТОЛЬКІ САНІ

Сагрэлі землякоў надзеяй на зімовую ўтульнасць у кватэрах лоеўскія камунальнікі. Яны пераабсталявалі кацельню для работы на мазуце. Не ад добрага жыцця падкінулі ім гэту ідэю інжынерна-тэхнічныя работнікі «Аблцепласеткі»: Расія пастаянна скарачае пастаўкі энерганосьбітаў у рэспубліку, а мазут пакуль менш дэфіцытны і выпрацоўваецца дома, на Мазырскім нафтахімічным заводзе.

## ДЫК ЯКАЯ Ў НАС ГІСТОРЫЯ?

За падрыхтоўку метадычнага дапаможніка па вывучэнню гісторыі Беларусі для сярэдніх школ узялася ў Магілёўскай вобласці ініцыятыўная група. У састаў яе ўвайшлі вучоныя мясцовых ВНУ, краязнаўцы, настаўнікі, работнікі Інстытута ўдасканалення настаўнікаў, упраўленняў народнай адукацыі і культуры. На мясцовым матэрыяле яны збіраюцца стварыць і выдаць да новага навучальнага года зборнік па гісторыі Магілёўшчыны, як дапамогу выкладчыкам і навучэнцам.

Вось так: пакуль у міністэрствах рэспублікі марудзяць, у правінцыі не спяць у шапку.

## ДАРАГІЯ ЮРЫСТЫ

Платны філіял беларускага Інстытута правазнаўства пачынае працаваць у Баранавічах. І хоць кошт навучання тут вельмі вялікі — 250 тысяч рублёў у год — жадаючых атрымаць дыплом за мільён нямала. Відаць, прываблівае прэстыжнасць спецыяльнасці — юрыст па фінансаваму праву. Праўда, пасля чатырохгадовага навучання і выдачы дыплома дзяржаўнага ўзору працаўладкаваннем выпускнікоў ніхто не будзе займацца.

БЕЛІНФАРМ.

В МИНГОРИСПОЛКОМЕ

# ХОЧЕШЬ ТОРГОВАТЬ? ПЛАТИ

Соб. инф. «ДВ».

Мингорисполком своим решением № 389 от 20 июля 1993 года упорядочил выдачу ходатайств на получение разрешений на розничную торговлю и оказание услуг за иностранную валюту.

Как известно, в соответствии с порядком валютного регулирования и проведения валютных операций, который установлен Верховным Советом и Национальным банком Беларуси, предприятия розничной торговли, гостиницы, рестораны, кафе, фирмы, обслуживающие иностранных и белорусских граждан за иностранную валюту, должны получать разрешение на эту деятельность от Национального банка. Разрешение же выдается только если есть ходатайство местного органа власти.

Выдача ходатайств и их учет отныне возложены на комитет экономики Мингорисполкома. При этом с 1 августа введен взнос на развитие города с субьектов хозяйствования, получающих ходатайства.

**ПОРЯДОК**

выдачи ходатайств в Национальный банк Республики Беларусь о получении разрешений на розничную тоговлю и оказание услуг за иностранную валюту.

1. Организация-заявитель в письменной форме обращается в отдел внешнеэкономических связей комитета экономики Мингорисполкома. В заявлении на бланке предприятия указывается вид деятельности и форма расчетов (в наличном или безналичном порядке), адрес места реализации гражданам товаров (работ, услуг) за иностранную валюту.

2. К заявлению прилагаются копии:

— учредительных документов предприятия;

— свидетельства о государственной регистрации;

— лицензии на осуществление вида деятельности на территории г.Минска;

— договора аренды помещения или других документов, подтверждающих права данного предприятия на использование помещений, зданий;

— справки (договора) о согласии уполномоченного банка на инкассацию СКВ;

— перечня товаров, предоставляемых в торговлю (копия контракта с инофирмой, спецификация);

— платежного поручения об уплате взноса на развитие города.

Отделом ВЭС могут быть затребованы и другие документы, информация, имеющие отношение к деятельности заявителя.

3. Ходатайство выдается по типовой форме с указанием полного наименования предприятия и адресов мест реализации гражданам товаров (работ, услуг) за иностранную валюту.

4. За выдачу ходатайства в Национальный банк с организаций-заявителей взимается взнос на развитие города в сумме пятисот долларов США или эквивалента этой суммы в другой конвертируемой валюте, которые зачисляются на валютный счет Мингорисполкома № 101070864 в городской дирекции Белбизнесбанка МФО 764.

5. При организации предприятием нескольких секций, отделов валютной торговли, взнос на развитие города уплачивается с каждой торговой точки.

6. В случае нарушения предприятием установленного на территории Республики Беларусь порядка валютного регулирования и проведения валютных операций, осуществления своей деятельности на территории г.Минска с нарушением условий выданных лицензий, исполком Мингорсовета считает выданное ходатайство аннулированным и отзывает его из Национального банка.

МЕРКАВАННЕ

# ДЗЕ «ЗОРКІ» НОВАЙ ЭКАНОМІКІ?

Яфім ІВАНОВІЧ.

Нярэдка можна чуць: пакуль да ўлады не прыйдуць новыя людзі, рэформы не пойдуць. Бо тыя, хто перабраўся з партыйных кабінетаў у кабінеты дзяржаўнай улады, у іх не зацікаўленыя. І, як аднойчы справядліва зазначыў С.С.Шушкевіч, «чыноўнікі старой закваскі няздольныя працаваць у новых умовах». Таму наменклатура, калі адкрыта і не сабатуе рэформы, на практыцы тармозіць іх.

Дык хто ж гэтыя новыя людзі, што павінны прыйсці да ўлады? Пытанне няпростае. Тым не менш адказ на яго знаходзіцца перад вачыма. Не так даўно ў Мінску пабываў вядомы прадпрымальнік, мільярдэр са Смаленшчыны А.А.Багдановіч. Між іншым, радавод яго пачынаецца ад Сапегаў, знакамітых дзеячаў Вялікага княства Літоўскага. Адзін з ягоных продкаў служыў губернатарам Смаленшчыны. Не ў прыклад былым «партакратам», якія не праміналі падкрэсліць, што яны — выхадцы з беднаты, Аляксандр Аляксандравіч не ўтойвае свайго паходжання і лічыць абавязкам быць вартым сваіх продкаў. Гандлёвы дом «Александр» за некалькі гадоў стаў адным з вядучых прыватных прадпрыемстваў у Расійскай Федэрацыі, а грошай у А.Багдановіча хопіць на 2-3 гадавыя бюджэты Смаленскай вобласці. І ён не трымае іх у скарбонцы, а развівае справу, стварае новыя рабочыя месцы, удзельнічае ў дабрачыннасці.

У Расіі, якая больш радыкальна пайшла шляхам рэформы, вядомымі сталі і іншыя новыя дзелавыя людзі, прадпрымальнікі і рэфарматары: К.Баравой у Маскве, прэзідэнт Калмыкіі доларавы мільянер і рублёвы мільярдэр К.Ілюмжынаў і іншыя. А.М.Траўкін, у мінулым наватарбудаўнік, кіруе адміністрацыяй Шахаўскага раёна ў Падмаскоўі. Яшчэ не прайшло шмат часу, а ў раёне адбыліся добрыя змены: развіваецца прыватны сектар, наладзілася становішча ў гандлі, знікае дэфіцыт, прыйшлі ў норму фінансы. Як падобныя дзелавыя людзі розняцца сваім светапоглядам і падыходамі ад тых партакратаў, якія па-ранейшаму трымаюцца састарэлых догмаў?

Сапраўдныя прадпрымальнікі і рэфарматары кіруюцца здаровым сэнсам, дзейнічаюць адкрыта, навідавоку. У іх няма патрэбы ўтойваць поспехі. Галоўнае для іх — рэалізаваць свае магчымасці ў агульных інтарэсах, садзейнічаць выхаду з крызісу.

Як тут, грэшнай справай, не падумаць: вось бы з такіх ды падабраць прэм'ера і членаў урада нашаму С.С.Шушкевічу. Можна ўявіць, як бы загаманілі, зашумелі, пачалі свой рух нашы застыўшыя эканамічныя рэформы. У свой час бальшавікі збіраліся спалучыць айчынны размах і амерыканскую дзелавітасць. Толькі, як і ва ўсім, слова свайго не стрымалі. Надарылі грамадства бязлітасным таталітарызмам. Пабудавалі лад, якому не патрэбны ні творцы, ні прадпрымальнікі-гаспадары, а толькі паслухмяныя выканаўцы, «сляпыя» вінцікі»...

Цяпер іншы час. Але нешта не спяшаюцца, не робяцца грамадскай сілай у нас прадпрымальныя «зоркі». Яны пакуль — адзінкі, выключэнні. Гэта не здзіўляе: гадамі вынішчаліся лепшыя, актыўныя людзі, найбольш разумныя, працавітыя. Калі ўжо не знішчалі фізічна, то якіх толькі ярлыкоў на іх не вешалі! Яны і крытыканы, і няўжыўчывыя, і супрацьпаставілі сябе калектыву...

Галоўная стаўка рабілася ( і нават сёння гэта працягваецца) на тых, хто нічым не вылучаўся, быў ціхмяным і паслухмяным. Такіх працаўнікоў, па сутнасці добрых людзей, але ж не творцаў, не герояў, ставілі ў прыклад, узнагароджвалі, рабілі героямі. Усё гэта не магло не адбіцца на паводзінах, псіхалогіі, поглядах людзей, на іх характарах, якія ўсё больш набывалі рабскія і спажывецкія рысы.

Цікава: усе госці з далёкага замежжа адзначаюць беларускую гасціннасць, памяркоўнасць, талерантнасць. І мы расчульваемся. А можа варта спытаць саміх сябе: дзе ж нашыя дзелавітасць, здольнасць да справы, здольнасць пайсці на рызыку? Гэта неяк не кідаецца ў вочы нашым гасцям. Наадварот, яны звяртаюць увагу на нашыя марнатраўства, няўменне гаспадарыць, выкарыстоўваць свае магчымасці.

Да таго ж ёсць аб'ектыўныя і суб'ектыўныя варункі, якія не толькі не заахвочваюць да прадпрымальніцкай ініцыятывы, а, наадварот, адбіваюць ахвоту. Хоць і аб'яўлена, што рэспубліка стала на шлях рыначнай эканомікі, але ўмовы для яе станаўлення не паляпшаюцца, заканадаўчая база недастатковая. Па-ранейшаму, каб адкрыць уласную справу, амаль немагчыма атрымаць крэдыт, знайсці дапамогу і падтрымку. Я ўжо не кажу пра кабальныя падаткі, якія нікога не заахвочваюць. Улады па-ранейшаму арыентуюцца больш на адміністрацыйна-камандныя метады.

А калі які-небудзь прадпрымальнік самастойна даб'ецца прыкметнага поспеху, ён і яго прадпрыемства трапляюць у зону асаблівай увагі розных кантралёраў і правяраючых. І, як заведзена, абавязкова знаходзяцца парушэнні (гэта ў нас вельмі проста зрабіць). Хоць быў абвешчаны прынцып «дазволена ўсё, што не забаронена законам». Затое якое раздолле для «прыхватызацыі» і карупцыі, для «прадпрымальнікаў», што існуюць у сімбіёзе з чыноўнікамі.

У многіх людзей адно слова «прадпрымальнік» выклікае алергію. «Не ўкрадзеш — не пражывеш», — гэта зацвердзілася за гады савецкай улады, пераносіцца і на ўсіх сённяшніх бізнесменаў, без разбору якімі шляхамі — сумленна ці з дапамогай махлярства — яны дабіліся поспеху. Напрыклад, паслухайце перадачы Мінскага абласнога радыё. У іх усе прадпрымальнікі — гэта хапугі, махляры, ашуканцы, нейкія несумленныя дзялкі (гэтак жа, як прадстаўнікі некамуністычных партый — абавязкова «псеўдадэмакраты»).

Зразумела, адмоўна ўспрымаюць так званых «ценявых» мільянераў. Але калі падумаць, то гэтая людзі — самыя актыўныя і прадпрымальныя. На самай справе, калі яны нажылі капіталы падчас суцэльных забарон, то можна ўявіць, што б яны зрабілі, калі б у нас даўно была дазволена прыватная эканамічная дзейнасць, калі б зараз меней было забаронаў і абмежаванняў. Так, гэтыя людзі сталі на шлях «ценявых», супрацьзаконных метадаў. Гэта бяда ўсяго грамадства. Падчас станаўлення свабоднай рыначнай эканомікі яны «адмыюць» свае капіталы. Здаецца, гэта непазбежна і гэта не павінна так палохаць усіх. Хай укладваюць грошы ў вытворчасць — стварыце ўмовы. Яны, «ценявыя» капіталы, не з паветра ўзніклі, а ўзяты з нашай эканомікі. Няхай туды і вяртаюцца.

І апошняе: адмоўна адбіваецца недахоп кампетэнтных кіраўнікоў. Падчас будаўніцтва камунізму «начальнікаў» рыхтавалі для каманднa-бюракратычнай сістэмы ў партыйных школах, «узбройвалі» іх марксісцка-ленінскай ідэалогіяй. Сёння ёсць нават Акадэмія кіравання пры Саўміне. А што змянілася? Іншая назва, ды тыя ж кадры. Напрыклад, адзін з адказных начальнікаў гэтай установы — былы ідэалагічны функцыянер ЦК КПБ, а потым сакратар ЦК Расійскай кампартыі І.І.Антановіч. У Акадэміі працуе і вядомы ідэалагічны дзеяч кампартыі, былы рэктар ВПШ С.Паўлаў... Атрымліваецца, што тыя, хто ўсё жыццё змагаўся з капіталізмам і з прыватнай уласнасцю, цяпер вучаць, як трэба будаваць прававую дзяржаву з рыначнай эканомікай.

Чым далей ідзём (а дакладней, мітусімся на месцы), тым усё больш відавочна: патрэбны хутчэй новыя выбары і заканадаўчай, і выканаўчай улад. Без гэтага подыху свежага паветра, без новых людзей Беларусі не выбрацца з крызісу.

ГОРОДСКИЕ ЗАБОТЫ

# ИСЧЕЗНУТ ОЧЕРЕДИ В ЖЭСах

Ольга ЖАРИНА.

**На одном из последних заседаний Мингорисполкома утверждена программа технического перевооружения управления жилищного хозяйства, рассчитанная на 5 лет. Прокомментировать необходимость этого шага мы попросили главного инженера УЖХ В.ВОРОБЬЕВА.**

— Наше хозяйство имеет более 500 единиц автотранспорта: для санитарной, механизированной уборки города, аварийных и т.д. Ремонтно-строительное производство насчитывает около 800 единиц различного оборудования. Ежегодно эту технику надо обновлять, потому что эксплуатируется она уже давно. Например, раньше у нас был большой парк немецких машин по вывозу мусора, сейчас все они выработали свой моторесурс, списаны и восстановлению не подлежат. 32 % другого автотранспорта эксплуатируется более 10 лет. Станочный парк изношен на 47 % и требует списания, а ремонтно-строительное оборудование самортизировано более, чем на 50 %.

Раньше старая техника заменялась по мере необходимости, но в последние 2 года из-за недостатка денег темпы обновления технических средств замедлились. А это отражается на качестве обслуживания жилого фонда.

Учитывая нынешнюю ситуацию, когда деньги нужны именно сегодня, а не завтра, иначе не приобретешь то, что надо, мы разработали упомянутую программу. В ней указаны наши первоочередные и перспективные нужды. Со следующего года из бюджета будут выделяться средства на выполнение этой программы, что позволит обновить станочный парк, автотранспортную технику, приобрести необходимое оборудование для обслуживания и ремонта сетей кабельного телевидения.

Учитывая, что около 15 % лифтов в городе находится в аварийном состоянии, многие функционируют более 20 лет и уже не поддаются ремонту, программой предусмотрена их замена.

Необходимо реконструировать некоторые старые и строить новые объединенные диспетчерские системы, которые контролируют работу всего оборудования в домах: водоснабжения, теплоснабжения, лифтов и т.д. Например, затапливает где-то подвал или прорвало канализацию, сработают специальные датчики, и у диспетчера на пульте сразу появится сигнал, можно сразу принять меры. Диспетчерская система — вещь незаменимая. К сожалению, их в городе немного, всего 26. Поэтому мы будем строить еще 20.

Один из разделов программы предусматривает внедрение запорно-переговорных устройств в домах. Сейчас установлено 1578 домофонов и кодовых замков. В течение 5 лет их появится еще 12,5 тыс. Это ограничит доступ посторонних в подьезды, улучшит санитарное состояние и сохранность жилого фонда. Думаем, горожане останутся довольны этим, тем более, что такие устройства начали устанавливать именно по просьбам жильцов.

Могу порадовать минчан и еще одной новостью. До конца этого года во всех ЖЭСах появятся компьютеры, которые будут начислять все коммунальные платежи. Так что людям не придется часами стоять в очередях, чтобы сделать перерасчет, компьютер выполнит работу быстро и точно.

Часть выделяемых средств мы направим на научно-исследовательские и опытно-конструкторские разработки, в которых есть настоятельная потребность.

Думаю, выполнение программы значительно улучшит качество эксплуатации жилищного хозяйства в городе.

